**Калі ў Вашым доме пасялілася калонія кажаноў, ці вы знайшлі жывёлу на балконе ці ў пад'ездзе, неабходна выканаць наступнае:**

**1.** Звязацца са спецыялістамі (кантакты глядзі ніжэй);

**2.** Пазбягаць дзеянняў, якія могуць патурбаваць жывёл;

**3.** Ні ў якім выпадку не дапускаць кантакту свойскіх жывёл з кажанамі;

**4.** У выпадку перыядычных залётаў кажаноў у жылыя памяшканні неабходна ізаляваць гэтыя памяшканні, то бок закласці ўсе магчымыя адтуліны і шчыліны, праз якія кажаны залятаюць у дом. Гэта проста зрабіць з дапамогай мантажнай пены Калі жывелы перыядычна залятаюць праз вокны ці форткі, трэба завесіць іх маскітнай сеткай, альбо зачыняць на ноч.

УВАГА: ні ў якім выпадку не закладвайце лётную адтуліну калоніі (гэта адтуліна, праз якую ўсе жывёлы вылятаюць увечары на паляванне). Гэта прывядзе да гібелі ўсёй калоніі разам з дзіцянятамі.



Мы спадзяемся, што гэтыя матэр'ялы зацікавілі Вас і крыху дапамогуць Вам адкрыць для сябе таямнічы і загадкавы свет нашых начных сяброў. Памятайце, што кажаны – гэта неад'емная, карысная і безабаронная частка нашага Сусвету. Толькі разам прыклаўшы свае намаганні мы здолеем захаваць і перадаць нашу агульную прыродную спадчыну сваім нашчадкам. Яна таго вартая!

Тэкст Аляксей Шпак. Фота Ягор Яцюк, Андрэй Шымкевіч



**Калі Вам патрэбна дапамога ці проста Вы зацікавіліся кажанамі, калі ласка звяртайцеся па гэтых кантактах:**

**Аляксей Шпак** ДНВА "НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах"
e-mail: dverg@mail.ru
www.vk.com/kazhany_by
www.facebook.com/Kazhany.by
Тэлефон: +375 29 213 92 57

**Грамадская арганізацыя "Ахова птушак Бацькаўшчыны"**

(8017) 263-06-13
(8029) 223-06-13
(8029) 101-68-87
info@ptushki.org

www.fb.com/APB.BirdLife.Belarus
www.vk.com/ptushki
www.twitter.com/ptushki

220114, г.Мінск, вул. Парніковая. д.11, пам. 4

www.ptushki.org



Грамадская арганізацыя
**"Ахова птушак Бацькаўшчыны"**
www.ptushki.org

# Таямнічыя суседзі



SECTOR
REGIONAL ENVIRONMENTAL CENTER
SWEDEN

**КАЖАНЫ – ЦІКАВЫЯ І ТАЯМНІЧЫЯ СУСЕДЗІ**

Большасць зваротаў людзей да спецыялістаў тычыцца менавіта залётаў, альбо пасялення калоній жывёл у жылых ці службовых памяшканнях. Калі такі выпадак адбыўся з Вамі, патрэбна ведаць некалькі правіл, якія дапамогуць і Вам і звярку, які апынуўся ў стрэсавай сітуацыі:

## КАЛІ ДА ВАС ПРЫЛЯЦЕЎ КАЖАН

**1.ПАМЯТАЦЬ,** што кажаны – гэта жывёлы, якія знаходзяцца пад пагрозай знікнення. 6 відаў кажаноў занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі;

**2. НЕ ПАНІКАВАЦЬ**. Памятайце, што кажан не мае намеру нанесці Вам шкоду і для яго гэта сітуацыя значна больш стрэсавая, чым для Вас;

**3.ВЕДАЦЬ,** што кажаны а ні ў якім выпадку не праяўляюць агрэсію і не нападаюць на чалавека, ці свойскіх жывёл;

4. Калі залёт адбыўся ў цёплую пару года, проста дачакайцеся вечара і расчыніце вокны. Пасля заходу сонца кажан сам пакіне Ваш дом;

5. Ні ў якім выпадку не спрабуйце спаймаць зьвярка, таму што Вы можаце яго траўмаваць. Акрамя таго, уцякаючы ад Вас, жывёла можа забіцца ў цяжкадаступнае месца. Гэта можа прывесці да яго гібелі і ўскладніць сітуацыю для Вас;

**6. НЕ ДАПУСКАЙЦЕ** кантактаў кажана са свойскімі жывёламі. Звычайна гэта прыводзіць да абаюдных параненняў;

7. Калі ўсё ж такі ўзнікла неабходнасць узяць кажана ў рукі (напрыклад жывёла знаходзіцца на падлозе) **НЕАБХОДНА РАБІЦЬ ГЭТА ТОЛЬКІ Ў ПЛОТНЫХ ПАЛЬЧАТКАХ,** таму што еўрапейскія віды кажаноў могуць пераносіць некласічны вірус шаленства. Трэба ведаць, што заразіцца гэтым тыпам шаленства Вы можаце толькі праз укус хворай жывелы. Іншых шляхоў пераносу віруса ад кажана да чалавека не адзначана. Памятайце, што нават хворыя на шаленства кажаны на праяўляюць агрэсіі да чалавека і свойскіх жывел. Але, калі ўсе такі адбыўся ўкус – тэрмінова звярніцеся ў раённы антырабічны кабінет і прайдзіце вакцынацыю. Пры адсутнасці пальчатак, трэба акуратна накрыць кажана будзь-якой каробкай, падсунуць пад каробку плотны ліст паперы ці картону і вынесці жывелу на вуліцу. Ні ў якім выпадку не скідвайце яе з вакна ці з балкона – кажан можа ўпасці на зямлю і стаць здабычай драпежнікаў. Лепш за ўсё акуратна пасадзіць яго на ствол дрэва ці якую-небудзь вертыкальную паверхню і пасля гэтага упэўніцца, што жывёла адляцела.



**КАЛІ КАЖАНЫ ПАСЯЛІЛІСЯ Ў ДОМЕ**

Звычайна калонія кажаноў, якая пасялілася ў будынку ў летні перыяд, з'яўляецца мацярынскай, то бок прадстаўляе з сябе згуртаванне дарослых самак з дзіцянятамі. Такія калоніі засяляюць добра праграваемыя часціны будынка, напрыклад гарышчы. Роды ў кажаноў праходзяць напрыканцы чэрвеня. Потым, цягам ліпеня, адбываецца рост і развіццё дзіцянят. Самкі з дзіцянятамі ў гэты час вельмі ўразлівыя і ўсялякі непакой можа прывесці да гібелі нованароджаных. Пачынаючы з сярэдзіны жніўня калоніі пакідаюць свае летнія сховішчы.